www.nv-online.info

№ 63 (4008)

14 жніўня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАЛІТКУХНЯ

# Макей на пяць дзён паехаў ва Украіну



*Працягваецца візіт міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея ва Украіну.*

Візіт **Уладзіміра Макея** ў суседнюю краіну праходзіць з 12 па 16 жніўня, пазаўчора міністр замежных спраў Беларусі сустрэўся з прэзідэнтам Украіны **Пятром Парашэнкам.**

Беларускі дыпламат запэўніў Парашэнку, што з беларускай тэрыторыі не будзе ніякай пагрозы для Украіны: *«Украіна – наш добры сусед, з якім мы маем вялікую працягласць мяжы. Паверце, мы хочам, каб гэта была мяжа міру і згоды, а не мяжа разладу і нянавісці».*

Макей дадаў, што бясплатны праезд аўтамабіляў з Данецкай і Луганскай абласцей па платных дарогах Беларусі не азначае прызнання ДНР і ЛНР.

*"Гэта тычыцца толькі бежанцаў,* – сказаў ён. – *Ні ў якім разе не азначае нейкага асобнага прызнання Данецкай ці Луганскай абласцей у якасці асобных нейкіх рэспублік. Прэзідэнт Беларусі з гэтай нагоды выказаўся адназначна: І Данецкая, і Луганская вобласці былі, ёсць і будуць у складзе Украіны. Гэтым усё сказана".*

У сваю чаргу Парашэнка адзначыў, што ўкраінска-беларускія адносіны *«перажываюць добрыя часы»* і выказаў падзяку Беларусі за падтрымку суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны, а таксама за прадастаўленне перамоўнай пляцоўкі.

Чаму візіт Макея будзе працягвацца аж пяць дзён?

*"На маёй памяці такіх працяглых візітаў кіраўнікоў беларускага знешнепалітычнага ведамства не было*, – распавёў "Народнай Волі" палітолаг **Андрэй ФЁДАРАЎ**. – *Хоць можна толькі вітаць, што ў нас такія цесныя стасункі з Украінай. Пабачым, якія будуць вынікі візіту".*

А вось палітычны аглядальнік **Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ** не выключае, што кіраўнік беларускага МЗС прывёз новыя мірныя ініцыятывы афіцыйнага Мінска па спыненні канфлікту ва Украіне.

*"Відавочна, што ў Лукашэнкі ёсць жаданне надаць імпульс працэсу ўрэгулявання сітуацыі на Данбасе,* – кажа ён. – *І Пуцін, верагодна, хоча пры дапамозе афіцыйнага Мінска выйсці з гэтай тупіковай сітуацыі".*

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

ПАМЯЦЬ



# Сын сваёй зямлі і часу

Няўмольна бяжыць час, аддаляючы падзеі, сціраючы ў памяці асобныя дэталі і факты. Гэта быццам бы натуральна, нават заканамерна. Але нельга дапусціць, каб у вірлівай плыні падзей нашай найноўшай гісторыі паціху забываліся імёны тых, хто ў свой час годна, не шкадуючы сябе, служыў сваёй краіне, свайму народу і пакінуў у яго памяці яскравы след.

Да такіх людзей з поўным правам трэба аднесці **Міхаіла Васільевіча КАВАЛЁВА** – радавога салдата Вялікай Айчыннай вайны, будаўніка, што вырас у вядомага дзяржаўнага дзеяча, які валодаў дакладным разуменнем вышэйшых прыярытэтаў і нацыянальных каштоўнасцяў, умеў знаходзіць правільныя рашэнні нават у вельмі няпростых сітуацыях.

16 жніўня спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння гэтага славутага беларуса, сына сваёй зямлі і часу.

На 3-й і 6-й старонках – успаміны пра Міхаіла Васільевіча Кавалёва журналіста Валерыя Міхайлава, які ў 1980-я гады мінулага стагоддзя працаваў памочнікам старшыні Савета міністраў БССР.

ВЫБАРЫ–2015

## *Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:*
# «Мы дойдзем да тэлевізійных выступленняў»

*Днямі ў тэрытарыяльную выбарчую камісію па Мінску быў выкліканы Віктар Карняенка – кіраўнік ініцыятыўнай групы па вылучэнні Анатоля Лябедзькі на пасаду прэзідэнта краіны. Цэнтрвыбаркам, аказваецца, мае прэтэнзіі да таго, як ідзе збор подпісаў за вылучэнца ад АГП.*
*"Народная Воля" патэлефанавала Лябедзьку, каб даведацца аб тым, што адбывалася ў сценах ЦВК, а таксама распытаць пра далейшыя планы АГП адносна бягучай выбарчай кампаніі.*

**– Анатоль Уладзіміравіч, пачнём з галоўнага, якія прэтэнзіі да вашай ініцыятыўнай групы былі агучаны ў ЦВК?**

– У ЦВК спасланіся на нейкія скаргі жыхароў сталіцы наконт таго, што мы ператвараем збор подпісаў у агітацыю. Але гэта поўная лухта! Дзеючая беларуская ўлада цалкам дыскрэдытавала выбарчую сістэму. Чаму я не магу раздаваць інфармацыйныя матэрыялы сваім прыхільнікам? Гэта не агітацыя, а інфармаванне, я ж не магу кожнаму на пальцах тлумачыць, хто я і што я прапаную.

**– А наколькі дакладная інфармацыя пра тое, што ў выпадку рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты вы спыніце ўдзел у выбарчай кампаніі?**

– Пакуль журналістаў цікавіць, калі і як я збіраюся здымацца, мы тым часам працуем з людзьмі. Працуем актыўна, гэта наша галоўная мэта. Што тычыцца зняцця, то тут няма нічога новага ў параўнанні з мінулай парламенцкай кампаніяй, у якой бралі ўдзел спікеры ад АГП.

Калі гаварыць канкрэтна пра сёлетнюю прэзідэнцкую кампанію, то пры ўмове рэгістрацыі мы дойдзем да тэлевізійных выступленняў, а потым завершым кампанію. Факт зняцця ў гэтым выпадку павінен дэманстраваць, што ў Беларусі няма адкрытых сумленных выбараў, няма адкрытага падліку галасоў, а значыць, і ўдзел у завяршаючай стадыі кампаніі губляе ўсялякі сэнс.

**– Людзі, якія ставяць подпісы ў вашу падтрымку, ведаюць пра тое, што вы не пойдзеце да канца?**

– Пры зборы подпісаў мы адразу кажам людзям: мы не заклікаем вас галасаваць. Мы кажам, што ваш подпіс нам патрэбны для таго, каб атрымаць новыя магчымасці, каб распавядаць пра сваю праграму, якая называецца "Мільён новых працоўных месцаў", для таго, каб людзі ведалі – альтэрнатыва ёсць.

**– Агучце, калі ласка, прамежкавыя лічбы па зборы подпісаў за ваша вылучэнне.**

– Лічба ў лічбу не скажу, але больш за палову ад патрэбных ста тысяч аўтографаў па стане на 13 жніўня мы маем.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ДАРЭЧЫ

# «Да канца тыдня будзе больш за мільён подпісаў»

**Анатоль Лябедзька** кажа пра сабраныя больш за 50 тысяч подпісаў у яго падтрымку. А як ідуць справы ў іншых прэтэндэнтаў?

Учора кіраўнік ініцыятыўнай групы па вылучэнні **Аляксандра Лукашэнкі Міхаіл Арда** паведаміў, што ўжо сабрана больш за 900 тысяч подпісаў. *«Па існуючай дынаміцы мы бачым, што да канца тыдня будзе сабрана больш за 1 мільён подпісаў»,* – перадае БЕЛТА яго словы.

У ініцыятыўнай групе **Віктара Цярэшчанкі** кажуць, што іх прэтэндэнт на прэзідэнцкае крэсла мае ўжо каля 130 тысяч подпісаў. У штабе **Сяргея Гайдукевіча** паведамілі, што сабралі каля 120 тысяч подпісаў. У камандзе **Таццяны Караткевіч** лічбу сабраных подпісаў не называюць, але мяркуюць выйсці на лічбу ў 100 тысяч подпісаў 14 жніўня. За лідара Беларускай патрыятычнай партыі **Мікалая Улаховіча** падпісаліся 79 тысяч грамадзян. За вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты **Сяргея Калякіна** сабралі больш за 62 тысячы подпісаў. А **Жанна Раманоўская** пакуль не агучвае колькасць сабраных подпісаў.



belta.by

# Жніво на фінішы

Збожжавыя абмалочаны з плошчы, якая складае **84%** ад засеяных.

Валавы збор зерня дасягнуў ужо **6,9** мільёна тон.

Найвышэйшая ўраджайнасць у Гродзенскай вобласці: **50,7** цэнтнера з гектара. Сярэдняя па краіне – **38,1**.

ЖАХ!

# Загінулі 34 матацыклісты

Толькі ў ліпені ў ДТЗ смяротныя траўмы атрымалі 13 чалавек, за 12 жнівеньскіх дзён – 3

За сем месяцаў у Беларусі з удзелам мотатранспарту адбылося 239 ДТЗ, у якіх 34 чалавекі загінулі, 246 атрымалі траўмы і калецтвы. Пры гэтым па віне матацыклістаў учынена большасць ДТЗ – 158, і менавіта ў гэтых аварыях загінула 27 вадзіцеляў двухколавай тэхнікі.

У ДАІ звяртаюць увагу на такую акалічнасць. У ліпені 9 з 13 ДТЗ са смяротным зыходам адбыліся ў сельскай мясцовасці і ў 12 выпадках матацыклісты знаходзіліся ў стане ап'янення.

І яшчэ адзін факт. За сем месяцаў гэтага года да адміністрацыйнай адказнасці за розныя парушэнні правіл дарожнага руху прыцягнута без малога 22 тысячы вадзіцеляў матацыклаў і мапедаў.

ФОТАФАКТ

# «Згарэла» плошча Якуба Коласа



Шматдзённая спякота не пашкадавала ні людзей, ні зямлю, ні раслін... Але ў сталіцы Беларусі ёсць месцы, якія гарадскія ўлады павінны былі ўзяць пад асаблівую ахову. Ну як было не паліваць рэгулярна травастой на плошчы Якуба Коласа. Цэнтр сталіцы, помнік і цэлая кампазіцыя скульптур, прысвечаных класіку нацыянальнай літаратуры, самаму слыннаму сыну Беларусі Якубу Коласу, турысты свае і замежныя...

Не, тое, што "згарэла" плошча Якуба Коласа, не робіць гонару мінскім чыноўнікам.

**Фота Віталя ГАРБУЗАВА.**

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

# Закон и издевательство

Представьте себе ситуацию.

Обычная белорусская семья: мама, папа, двое сыновей-студентов и больная бабушка – мать главы семейства. Старушке за 80, кроме прочих заболеваний страдает старческим психическим расстройством. Не всегда помнит, что ела, куда вещи положила, сходила ли в туалет. Несколько лет назад, когда жила отдельно, в собственной квартире, забыла выключить электрогрелку и уснула. Чудом осталась жива. Квартира выгорела почти вся. От стресса бабушка слегла, попала в больницу, откуда выписалась абсолютно беспомощной: контролировать прием лекарств не могла, с кровати почти не вставала, пользовалась памперсами.

Единственный сын, конечно же, забрал мать к себе.

Первые полгода по заключению психиатра старушке был назначен уход и на семейном совете было решено, что с работы уйдет невестка Ирина.

За шесть месяцев она поставила свекровь на ноги: врачи из местной поликлиники даже удивлялись, говорили, что в их случае это – огромный прогресс, почти чудо. В итоге врачебная комиссия уход за бабушкой отменила. Приехав на осмотр, медики и соцработники увидели чистенькую ухоженную старушку и решили, что теперь она сама может готовить, стирать, убирать, гулять на свежем воздухе. Родственники спорили, уверяли, что оставлять бабулю одну в квартире опасно, что самостоятельно выйти на улицу она не сможет, да и вообще не справляется с элементарным – даже не может запомнить, какое лекарство и в котором часу ей надо принимать. Но их никто не услышал.

Ирина на работу, конечно же, не вернулась, потому что это чревато бедой, и теперь, согласно последнему закону, разработанному нашими бдительными чиновниками, стала тунеядкой. За то, что досматривает больную 82-летнюю свекровь, оказалась еще и должна государству. Пока обязана заплатить 3,6 миллиона, но какие тарифы власти определят в следующем году – неизвестно.

Хотя дело даже не в том, что государство решило «заработать» на домохозяйках. Новые «муки творчества» белорусских законодателей в очередной раз высветили другую проблему – истинное отношение к пожилым людям со стороны государства...

Это нам только рассказывают, какой заботой в Беларуси окружены старики и инвалиды. Как пекутся о них чиновники, какие пишут законы, чтобы ни один из них не оказался выброшенным из жизни, лишенным заботы. При этом на самом деле многих этих социальных гарантий нет. Свекрови Ирины 82 года. Преклонный возраст, психическое расстройство. сахарный диабет, давление. Неужели она (к слову, ветеран труда) не заслужила должного ухода в старости?!

Оказывается, нет. Потому что она инвалид второй, а не первой группы. Потому что какая-то там комиссия определила, что в свои 82 года и при своих физических недостатках она не нуждается в постоянном уходе.

При этом комиссия берет на себя ответственность за судьбу бабушки? Нет! Комиссия готова обеспечить старушку сиделкой? Нет! А то, что Ирина досматривает больную родственницу, нашими чиновниками расценено как излишество, прихоть, за которую, видите ли, нужно платить.

Кто, если не дети, должны взять на себя ответственность за престарелых родителей. Вроде бы все так, все правильно. Однако этот аргумент разбивается очень легко, потому что в нашей стране большинству пенсионеров, честно отработавшим на благо родины всю сознательную жизнь, платят пенсию, которой на достойную старость элементарно не хватает. Немоглые старики не могут, как их сверстники на Западе, нанять за свою пенсию ту сиделку, какую захотят, обменять свою квартиру на место в благоустроенном и комфортном для проживания социальном доме. Там родители-пенсионеры не становятся с подачи государства обузой для детей, у нас – становятся. И у нашего государства еще и претензии ко взрослым детям: они, мол, должны, они обязаны заботиться о родителях. А теперь даже тех, кто вынужден пожертвовать работой ради заботы о престарелых и больных мамах и папах, чиновники записали в тунеядцы.

Подобных ситуаций в Беларуси не одна-две, уверена, – сотни.

Где логика? Хотя стоит ли ее искать в нашей стране, где пенсионеров и студентов лишают льгот на проезд, где вводят налоги на одолженные деньги, где всерьез задумываются о том, чтобы ввести пошлину на выезд за границу и посылки из-за рубежа.

...В январе Ирина с мужем предприняли еще одну попытку добиться от государства возможности ухаживать за больной 82-летней мамой, не попав при этом в разряд тунеядцев. Сами ходили по врачам-специалистам, чтобы взять нужное заключение и передать очередному участковому терапевту – за это время их в поликлинике сменилось четверо. Комиссии к ним в квартиру, как к себе в дом ходили. Но заключения ВТЭК нет до сих пор.

Осталась последняя надежда – вдруг чиновники одумаются, и если не отменят закон, ставший поводом для насмешек во всем цивилизованном мире, то хотя бы его отредактируют. Ведь все уже признали, что закон этот недоработанный, «сырой», непродуманный и несправедливый. Хотя бы потому, что для тех, кто нелегально работает и имеет большие доходы, быть тунеядцем за 3,6 миллиона в год выгоднее, чем платить налоги. А пострадали от нововведения многие простые граждане, которые в силу жизненных обстоятельств вынуждены не работать.

